

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

1993 ЖНІВЕНЬ 25 СЕРАДА

№ 159 (594)

Цана 10 рублёў

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### ПРЭЗІДЭНТЫ СУСТРЭЛІСЯ І ВЫРАШЫЛІ...

У МІНСКУ сустрэліся прэзідэнты маладзёжных палат Расіі і Беларусі. Яны абмеркавалі пытанні, звязаныя з наладжваннем дзейсных сувязей, прынялі рашэнне аб стварэнні ў Расіі сумеснага кансультатыўна-інфармацыйнага бюро, якое возьмецца за арганізацыю інфармацыйнага абмену, сустрэч і прыёмаў прадстаўнікоў палат. У нашай рэспубліцы будзе дзейнічаць прадстаўніцтва і аддзяленне гэтага бюро. На думку прэзідэнтаў, новаствораная структура дапаможа актывізацыі работы маладых бізнесменаў дзвюх дзяржаў.

### МОЛАДЗЬ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙСЯ?

ПАДПІСАННЕМ сумеснага камюніке завяршылася сустрэча кіраўнікоў камітэтаў па справах моладзі Расіі, Украіны і Беларусі, якія сабраліся ў Мінску, каб абмеркаваць актуальныя праблемы. У дакуменце адлюстраваны асноўныя напрамкі ў рабоце дзяржаўных службаў, што займаюцца маладзёжнымі справамі. У прыватнасці, пытанні інфармацыйнага абмену, правядзення сумесных сустрэч, стварэння ўмоў для супрацоўніцтва розных аб'яднанняў Расіі, Украіны і Беларусі. Аказанне ўсебаковай падтрымкі ў развіцці турызму, садзейнічання цэнтрам служб добраахвотнай працы.

На думку ўдзельнікаў, камюніке прадугледжвае штогадовы пратакол аб рабоце камітэту. Лідэры моладзі лічаць, што надышоў час адрадзіць былыя сувязі, таму ўсім жадаючым адчынены дзверы для далучэння. Выпрацаванае камюніке стане асновай для вялікай размовы, якая адбудзецца ў верасні ў Маскве, куды будуць запрошаны прадстаўнікі камітэтаў па справах моладзі СНД.

На сустрэчы падрыхтаваны праект звароту да кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці, каб прыцягнуць увагу вялікіх палітыкаў да маладзёжных праблем.

Удзельнікі сустрэчы пабывалі ў маладзёжнай палаце Рэспублікі Беларусь і Нацыянальным савеце моладзі. На гэтым сустрэча завяршылася.

### ВЫРАШАЮЦЬ ЖАНЧЫНЫ

ЧЫМ ДАЛЕЙ у рынак, тым больш цяга да аб'яднання. Да такога выváду прыйшлі і дзелавыя жанчыны Беларусі. На сваім ініцыятыўным форуме, які адбыўся ў Мінску, найбольш актыўна прадстаўніцы слабага полу абмеркавалі пытанне аб стварэнні асацыяцыі беларускіх жанчын-прадпрымальнікаў. Выбраны аргкамітэт, якому даручана распрацаваць канцэпцыю дзейнасці і статут новай арганізацыі, а таксама заняцца падрыхтоўкай устаноўчага сходу.

Праўда, не вырашана пакуль, ці быць асацыяцыі поўнасцю самастойнай, або пайсці пад крыло больш магутнага і вопытнага Беларускага саюза прадпрымальнікаў і арандатараў (БСПІА). Жанчыны не прыйшлі яшчэ да адзінай думкі. Хоць БСПІА ўжо гатовы дапамагаць прыгожай палавіне дзелавога свету як маральна, так і матэрыяльна. Куды схіляцца шалі жаночай інтуіцыі, пакажа час. Чакаць, відаць, застаецца нядоўга: падрыхтоўка да ўстаноўчага сходу разгорнута па-жаночы імкліва.

### ☐ КОРОТКО

27 августа в Колодищах состоится коллегия Министерства Обороны. Повестка дня вполне отражает все реалии и проблемы современной жизни. Военное руководство будет обсуждать вопросы о положении дел в ВВС, о состоянии воинской дисциплины, о ходе боевой учебы, о заготовке овощей и об изучении в войсках белорусского языка.

* * *

Собственный «Информационный бюллетень» начал издавать Госкомчернобыль республики. В нем найдет отражение деятельность правительства, направленная на ликвидацию аварии, будут публиковаться разнообразные цифры и факты, связанные с последствиями катастрофы. Есть надежда, что бюллетень станет источником оперативной, авторитетной и, главное, правдивой информации, которая очень нужна жителям республики.

### В КАЗАХСТАН — ЗА ХЛЕБОМ

Тамара МАРКИНА.

Первый железнодорожный состав с автомобилями минских предприятий отправился в Казахстан в ночь с четверга на пятницу. Последний, четвертый, в 18.50, в воскресенье. Уехали минские водители зарабатывать городу хлеб. Всего 210 машин, еще 358 отправлено от Минской области.

Главный инженер производственного управления транспорта и связи Мингорисполкома Геннадий Георгиевич ГАНЧАРИК впервые за несколько последних дней облегченно вздохнул:

— Ну что ж, город не будет нахлебником у республики. Наши транспортники внесут свой вклад в заготовку зерна для белорусского каравая.

Сделана предоплата за казахстанский хлеб. Часть ее пошла на оплату железнодорожного транспорта, доставляющего наши автомобили в хлебный Казахстан.

На днях объединение хлебопродуктов произведет расчет с предприятиями, отправившими на целину свой транспорт. В отличие от прошлых лет ныне заключены договоры, четко оговаривающие обязанности всех заинтересованных сторон: и хлебные хозяйства Казахстана, и транспортные организации, и наше объединение хлебопродуктов, задача которого кормить круглый год хлебом минчан и жителей области. Оплата будет производиться со специального казахстанского счета, так что оперативность расчетов гарантирована — влияние инфляции поэтому будет минимальным.

— *А кто же будет рассчитываться с самими водителями?*

— По месту работы у них сохранятся 75 процентов заработной платы, а в Казахстане с ними будут рассчитываться колхозы и совхозы как деньгами, так и зерном. Обычно наши водители там зарабатывали неплохо. Думаю, и в этом году они останутся довольны.

### *У МІНСКУ НА АДЗІН УНІВЕРСІТЭТ БУДЗЕ БОЛЬШ*

Калегія Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь падтрымала прапанову Вучонай Рады Мінскага інстытута культуры аб пераўтварэнні яго ў Нацыянальны універсітэт культуры. Мяркуецца, што гэта добра паспрыяе якасці падрыхтоўкі спецыялістаў-знаўцаў традыцыйнай беларускай і сусветнай культуры, педагогаў і культарганізатараў высокага класа.

### І ПАЧАСТУНАК У ДАДАТАК

Антон МУКАСЕЙ.

ЗАЎТРА ў Доме літаратара праводзіць вечарыну мінская суполка паслядоўнікаў веры Бахаі. Нагодаю для яе стаў прыезд мадам Рабані, якая з'яўляецца ганаровым прадстаўніком Міжнароднага супольніцтва Бахаі, адзіным на сёння з членаў сям'і заснавальніка веры.

Дарэчы, гэтая сусветная рэлігія, паводле даных яе прыхільнікаў, налічвае больш пяці мільёнаў людзей у 232 краінах свету. У 1948 годзе Міжнароднае супольніцтва Бахаі было прызнана ААН як недзяржаўная арганізацыя, з 1970 года мае, дарэчы, голас у ЮНЕСКА і Дзіцячым фондзе ААН.

Мадам Рабані выступіць перад прысутнымі, а затым будзе дэманстраваць невялікі фільм, зняты з яе ўдзелам. Пасля гэтага плануюцца музычныя выступленні і пачастунак «як нагода для прыемнай размовы».

### ЗНОЎ У МІНСКУ

Мартын ЯНУШКАЎ.

Вядомы ўрач-псіхатэрапеўт Аляксандр Даўжэнка добра вядомы мінчанам, хаця жыве ён за мяжою, на Украіне. Але раз на 1-2 месяцы доктар прыязджае з Сімферопаля ў Мінск, каб самому правесці сеансы лячэння. Ну, а ад чаго ён лечыць, мяркую, не трэба ўдакладняць. Бо тэлефонныя звароты з запытам, дзе лечаць па метаду Даўжэнкі, сталі звыклымі і ў нашай рэдакцыі. Заўтра і паслязаўтра Аляксандр Уладзіміравіч зноў будзе ў нашым горадзе і правядзе некалькі сеансаў. Праўда, удакладняць, дзе і калі гэта адбудзецца, мы не станем, бо шкадуем доктара. У адрозненне, скажам, ад Кашпіроўскага, Чумака ці галоўнага ведзьмара Расіі, Даўжэнка не збірае шматлікія натоўпы хворых. Методыка патрабуе ад пацыентаў і папярэдняга медыцынскага агляду, і, калі вы жадаеце пазбавіцца, напрыклад, ад алкагалізму, неўжывання «змія» на працягу 14-20 дзён. Як вядома, Даўжэнка лечыць яшчэ ад таксікаманіі і курэння. Удакладнім толькі, што той, хто хоча пазбавіцца ад названых заган, можа здзейсніць сваё жаданне ў любы час, не абавязкова чакаць Аляксандра Уладзіміравіча.

## НА ЗЛОБУ ДНЯ

### РЫБАК РЫБАКА ВИДИТ...

Сергей ВЕРАС, РИД.

Стихийное течение нашей нынешней жизни со всей очевидностью демонстрирует возможности властных структур. Деньги, стремительно занявшие пирамиду ценностей постсоветского человека, подмяли под себя чувства, совесть и законы. Чтобы как-то сохранить остатки государственного регулирования рыночной жизни, ВС РБ в очередной раз внес изменения в Кодекс об административных правонарушениях.

Ужесточены санкции за нарушение правил торговли как торговыми работниками, так и рядовыми гражданами. «Советское купечество» рискует потерять от 10 до 20 процентов минимальной заработной платы плюс конфискация награбленного. Работяга, нарушивший базарные правила, может остаться без трех зарплат. Предпринимательство без регистрации в соответствующих органах может обернуться бесплатным пополнением госбюджета и товарных складов. Представители государственной власти под угрозой лишения 15 зарплат также не рекомендуют осуществлять предпринимательскую деятельность.

Пятьдесят минимальных заработных плат отнимут (если обнаружат) у тех, кто нарушил установленный порядок приватизации государственной собственности. (А сколько уже прихвачено). Использование государственных средств не по назначению влечет наложение штрафа до 30 минимальных заработных плат.

Нарушение служебным лицом операций с валютой влечет штраф до 15 минимальных зарплат. Те же действия, совершенные повторно, — от 15 до 20 заработных плат.

Невыполнение банками обязательств по контролю над сохранением порядка ведения кассовых операций и выдачей наличных денег — до 15 минимальных заработков на должностных лиц.

Грубое нарушение ведения бухгалтерской отчетности влечет наложение штрафа от 10 до 20 заработных плат.

Неизвестно, насколько действенными будут принятые меры. Ведь порой выгода от незаконной сделки в несколько десятков, а то и сотен раз превышает все указанные штрафы. Да и нарушение еще нужно обнаружить.

Конечно, для рядового труженика двадцать минимальных заработных плат могут существенно отразиться на жизненном благосостоянии. Но вот для тех, чей доход благодаря должности не ограничен, это не больше, чем отеческий шлепок по известному месту.

## КАЛЯНДАР

*СЕРАДА, 25 ЖНІЎНЯ.*

**СОНЦА** — 6.04/20.19.

Даўжыня дня — 14.15.

**МЕСЯЦ** — першая квадра 24 жніўня,

усход 15.59/ захад 23.33.

**ІМЯНІНЫ**

*Сёння:*

*Праваслаўныя* — Аляксандра, Капітона, Мікіты, Памфіла, Фоція.

*Каталіцкія* — Людвіка, Язэпа.

*Заўтра:*

*Праваслаўныя* — Максіма, Ціхана; Мінскай Іконы Божай Маці (1500 г.).

*Каталіцкія* — Зэльфіры, Марыі.



## СКОРО, СКОРО...

### ВОЗВРАЩЕНИЕ НА КРУГИ СВОЯ?

Соб. инф. «ДВ».

1 сентября вступает в действие Постановление СМ РБ «Об упорядочении торговли водкой и другими спиртными напитками в Республике Беларусь». Этот документ запрещает продажу спиртного в мелкорозничной торговой сети (за исключением летних кафе, мини-кафе, павильонов, в которых есть торговые залы, где может продаваться в разлив с потреблением на месте виноградное вино, коньяк, шампанское, ликер, бальзам, аперитив). Запрещается продажа спиртного также в учебных, зрелищных, воспитательных, лечебных учреждениях, в общежитиях, на производственных предприятиях и стройках, в диетических столовых и детских кафе, в буфетах вокзалов, аэропортов, пристаней, а также вблизи указанных обьектов. Криминалом теперь будет и реклама алкогольной продукции.

Вслед за постановлением Совмина появилось и соответствующее решение Мингорисполкома, в котором говорится, что в последнее время в городе на треть возросло количество дорожно-транспортных происшествий по вине пьяных водителей и на 50% число пожаров по вине пьяных граждан, есть факты отравления суррогатами алкоголя, хищений спиртных напитков на предприятиях, в торговых точках города. Поэтому горисполком решил возобновить работу городской и районных комиссий по борьбе с пьянством, активизировать работу по профилактике пьянства в трудовых коллективах и по месту жительства. Райисполкомы должны провести экспертизу ранее выданных лицензий на право продажи спиртных напитков.

...Похоже, история повторяется. Аналогичные решения появлялись в 1972, 1985, 1988, 1990...

**P.S. Коммерсантов остается утешить лишь одной новостью: упомянутое постановление отменило государственную монополию на продажу пива, производимого в республике.**

**Ну, а любителям более крепких напитков лучше избавляться от своего пристрастия, ведь сейчас даже по талону водку купить — проблема. Вся «Пшеничная» уходит в Россию в зачет расчетов за газ.**

### И НЕ ТОЛЬКО СПИРТНОЕ

Соб. инф. «ДВ».

Кстати, 9 августа Минторг издал приказ «О внесении изменений в Правила мелкорозничной торговой сети на территории Республики Беларусь». Этот документ установил ряд ограничений. Сейчас через мелкорозничную сеть нельзя продавать не только спиртное, но и скоропортящиеся продукты (при отсутствии холодильного оборудования), холодное и огнестрельное оружие и припасы к нему, газовое оружие и баллончики с газами нервно-паралитического действия, армейское снаряжение, обмундирование и другие товары военного ассортимента.

Для реализации газовой аппаратуры требуется освидетельствование соответствующими службами на пригодность к использованию.

Без лицензии Минздрава нельзя продавать медицинскую технику, бактериологические, психотропные, наркотические, сильнодействующие и ядовитые вещества, лекарственные средства и травы.

Лицензия комитета по драгоценным металлам и драгоценным камням требуется при реализации драгоценных металлов и камней, жемчуга, янтаря, мореного дуба, а также ювелирных, бытовых и других изделий из них.

## ДЕЛОВОЙ МИНСК

### ВСЕ, ЧЕГО ТАК НЕ ХВАТАЕТ

Андрей ПОТРЕБИН, «ДВ».

**Сегодня в комплексе «Минскэкспо» состоялось открытие ярмарки-салона «Бистро — 93». На стендах — все необходимое для оснащения и успешной работы столовых, кафе, ресторанов любых размеров, категорий и форм собственности.**

Есть продукты питания и напитки (как правило, повышенной степени готовности). Но прежде всего профессионалы могут увидеть и выбрать для своих предприятий как отдельные машины, инструменты, печи, установки для обработки и приготовления блюд, так и целые мини-заводы, коллективные бары, пекарни, закусочные, которые могут быть поставлены и смонтированы «под ключ». Особое место занимают небольшие комплексы для производства пива, соков, мороженого, мясных продуктов, хлебобулочных изделий, полуфабрикатов из теста. Кроме того, предлагаются мебель, посуда, столовые приборы, разнообразные предметы для оформления интерьеров и отдельных столов.

Словом, организаторы предусмотрительно собрали под одной крышей все, чего так не хватает отечественному общепиту. Характерно, что более половины участников, занявших выставочную площадь, представили именно специальное оборудование, холодильные установки, линии переработки.

Как заверили специалисты Министерства торговли Беларуси, деловые контакты на ярмарке будут успешными. Во-первых, некоторое оборудование уже прибудет для конкретных покупателей. Во-вторых, спрос нашего общепита на торговое и технологическое оборудование из России и стран СНГ как никогда повысился (а Россия сейчас поощряет его вывоз). В-третьих, есть хорошие перспективы и для притока в Беларусь современной импортной техники.

Ярмарка-салон «Бистро-93» продолжится до 28 августа. Завтра в программе — семинар «Новые технологии общественного питания» с участием ученых Могилевского технологического института, Харьковского института общественного питания, Киевского торгово-экономического института, Московского НИИ «Полином», Института тепло- и массообмена АН Беларуси, а также специалистов из Германии, Испании, Израиля.

Неизвестно, будут ли после этих практических и теоретических мероприятий обслуживать лучше, но возможности для прогресса отрасли ярмарка-салон создает.

## ФОТОФАКТ

**ПРАЗДНИК** танца — Первый фестиваль белорусской песни состоялся в Чечерске. Он был организован отделом культуры Чечерского райисполкома и Белорусским институтом проблем культуры.

Со всех уголков республики собрались самобытные этнографические ансамбли и фольклорные коллективы, продемонстрировавшие приверженность народным традициям. В рамках фестиваля прошел конкурс индивидуальных исполнителей народных танцев, музыки, песен и смотр художественных программ фольклорных коллективов. Были развернуты выставки народной одежды, вышивки и ткачества, гости фестиваля участвовали не только в конкурсной программе, но и выступили на концертных площадках района, подарив жителям Чечерщины немало прекрасных минут общения с настоящим искусством.

**НА СНИМКАХ: праздник в разгаре.**

**Фото Владимира МЕЖЕВИЧА, БЕЛИНФОРМ.**





## ФУТБОЛ

Учора прайшлі стартавыя гульні другога круга першынства горада. На стадыёне «Прамень» гулялі «Прамень» і «Падшыпнік», а потым «Клуб глухіх» і «Вымпел».

А заўтра, 16 жніўня, на комплексе футбольных палёў у Драздах пройдзе гульня жаночага першынства рэспублікі. Гуляць будуць дзве «Трыкатажніцы» — мінска-бабруйская «Змена» і «чыста» бабруйская «Арміна». «Трыкатажніца» — «Арміна», дарэчы, займае другі радок у турнірнай табліцы, а «зменаўцы» пакуль трэція.

Сергей РАЧИЛА (пресс-центр УВД г.Минска)

### *ДОВЕРЯЙ, НО ПРОВЕРЯЙ!*

ИЗ КВАРТИРЫ 29-летней минчанки Р. по улице Могилевской пропали 20 долларов и золотое кольцо. Вскоре выяснилось, что руку приложила 19-летняя Л., которая, судя по всему, является далеко не чужой персоной для хозяйки. Стоило потерпевшей ненадолго оставить «подругу» в своей квартире — последняя тут же доказала свою «преданность» дружбе указанным способом...

Трудно понять и поведение другого такого растяпы — 44-летнего рабочего Г. Впустив в свой «шалаш» 34-летнего ранее судимого бомжа, хозяин позволил себе «ненадолго отлучиться». Результат — упомянутый бомж вынес десять предметов личных вещей «добряка». Его догнали милиционеры у соседнего дома.

### *НА ЧУЖОЙ КАРАВАЙ РОТ НЕ РАЗЕВАЙ...*

СОТРУДНИКИ столичного оперативно-поискового отдела на проспекте Скорины задержали 27-летнего (ранее неоднократно судимого) минчанина Ш. Набравшись наглости, этот субъект вошел в магазин «Каравай» обьединения «Минскхлебпром», где открыто похитил с прилавка почти 40 тысяч рублей выручки.

Проводится расследование.

## ПА ЧУТКАХ І АЎТАРЫТЭТНА

### ПРАНЕСЛА, ХАЛЕРА ЯСНА

Іван КАХНОВІЧ.

**ШЧЫРА кажучы, таму, хто наведаў у панядзелак вечарам паліклініку № 17, не пашанцавала. Як і іх блізкім, якія зачакаліся вяртання сваякоў дадому і ўжо пачалі нервавацца. Не дабавіла спакою, а, наадварот, узрушыла і пачутая потым навіна. Халера? У Мінску? Так менавіта на той час стаяла пытанне. Бо нездарма ўсім «папаўшымся» наведвальнікам паліклінікі было прапанавана дома тэрмінова «асвяжыцца» і, як сцвярджалі пасля вяртання мужчыны, «прыняць чарку». Усё гэта звязвалася з падазрэннем на захворванне халерай адной з пацыентак.**

**Што ж здарылася? Няўжо гэтая хвароба не абмінула Мінск? З такімі пытаннямі мы звярнуліся ў гарадскую санітарна-эпідэміялагічную станцыю. Вось аб чым нам расказалі.**

Адна жыхарка нашага горада была ў турыстычнай паездцы ў Сярэдняй Азіі. Усё было цудоўна, бо, нягледзячы на ўсе цяперашнія цяжкасці, паглядзець там сапраўды ёсць што. Але добра было да пары, бо ўжо на зваротным шляху наша турыстка захварэла. Здавалася, хвароба не сур'ёзная — «сапсаваўся» страўнік, з кім не бывае. Тым больш, куплялі ж і агародніну, і садавіну на рынку. Як звычайна бывае, не мылі. Тым больш, што, пэўна, асаблівых магчымасцей для гэтай працэдуры не было. Словам, ехала — лячылася, прыехала, гэта было 21-га — лячылася. Але, як кажуць, хвароба калі не ўморыць, то скрывіць.

Тым больш, прабачце, такая непрыемная, як у дадзеным выпадку ў гэтай дамы. Патрываўшы да 23-га, яна ўрэшце, замучаная ды яшчэ напалоханая чутым і чытаным аб выпадках захворвання халерай у Узбекістане, дзе, нагадала, ела нямытую садавіну, аб смяротных зыходах у Маскве і іншых гарадах ад гэтай заразы, прыйшла ў 17-ю паліклініку. Расказала ўсё ўрачу. Ну, а далей ужо «спрацавалі» медыкі. На такія і іншыя выпадкі ў іх ёсць свая методыка. Ды, вядома, тут лепш перастрахавацца, хаця дыягназ быў пастаўлены з пытальнікам. Дзверы паліклінікі зачынілі, перапісалі ўсіх наведвальнікаў, далі ім адпаведныя рэкамендацыі, гаспіталізавалі хворую і тых, хто з ёй кантактаваў. І ўсю ноч спецыялісты гарадской санстанцыі вялі нябачную для ўсіх, але вельмі неабходную работу. Былі зроблены адпаведныя аналізы і, нарэшце, учора, недзе ў 10.45 — наўмысна ўдакладняю, каб зразумелі, як аператыўна працавалі медыкі, — стала вядома: у хворай звычайная дызентэрыя. Праўда, некаторы час, як кажуць, «пытальнік» у першапачатковым дыягназе яшчэ заставаўся, але напружанне спала.

Што ж, падзякуем, страшная хвароба абмінула наш горад. Але гэтая гісторыя, спадзяёмся, можа зарыентуе каго-небудзь з тых, хто едзе ў той жа сярэднеазіяцкі рэгіён або на поўдзень.

